# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 39 (1178) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 24 ВЕРАСНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.




### СЯБРУ

Ты злоснікаў сваіх не пераможаш,
Няма ў цябе драбніцы аднае:
Ты так ісці наперарэз не зможаш
І так хлусіць, як злоснікі твае.

О не,
ты перамогі не здабудзеш
І не ўскладай надзей сваіх на бой:
Ты і на полі заставацца будзеш,
Ці хочаш ты, ці не, — самім сабой.

І, можа быць, ты вернешся ў няславе...
Не ўмееш ты ні здраджваць,
ні лаўчыць...
І толькі раптам і на самай справе
Ты паражэннем гэта не лічы.

**Павел Марціновіч**



**На роднай зямлі.** Машчона Каралеўская над Бугам. Фота В. Рудчыка.

## У дружнай сям'і

Законна працадзень трывае восем гадзін, але тут гадзіннікам сонца. Так гэта ўжо на гаспадарцы ёсць. Усё залежыць ад пагоды і нагрузкі працы. Які ж гаспадар пакіне сухое сена ці жыта, бачачы надыходзячую хмару. А тут усе яны сорак шэсць асоб гаспадары.

Пачаткі былі нялёгкія. Адчуваўся недахоп адпаведнай колькасці сельскагаспадарчых машын, вопыту, а часта і перакананння ды зразумення з боку іншых. Калі ў 1959 годзе, дзякуючы дапамозе ўлад і арганізацыйным здольнасцям Аляксея Тамашука, арганізаваўся тут, у Старым Корніне, што ў гміне Дубічы Царкоўныя, кааператыў сельскагаспадарчай вытворчасці, пераканаых і прыхільных калектыўнай форме гаспадарання было ўсяго толькі дзесяць чалавек. Перад імі быў той першы крок, якім трэба было апраўдаць надзеі. І апраўдалі. Адбыліся тут аграмадныя змены. Сталі цвёрда на нагах.

Кааператыў сельскагаспадарчай вытворчасці імя „Зялёнага штандару" ў Старым Корніне гаспадарыць на 497 гектарах. У ім 82 члены з дваццаці дзвюх сем'яў. Зразумела, частка гэтых асоб, зрабіўшы сваё, пайшла на заслужаны адпачынак. Але сорак шэсць пар рук здольных да працы поўнасцю адольвае гэтую вялікую гаспадарку. У калектыве праца спорыцца. А найважнейшае перакананне, што ўсё — гэта іх уласнасць, што ўсё як у сям'і. Вялікая сям'я на вялікай гаспадарцы. Зарабляюць тут добра. Зрэшты, самі да гэтага дайшлі. Дзённы заработак простага пра-

Працяг на стар.4



*Аляксей Тамашук — нязменны старшыня кааператыва сельскагаспадарчай вытворчасці ў Старым Корніне.*

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## Белкі

Хоць і знаходзяцца яны, можна сказаць, у самым сэрцы Падляшша, бо ў міжрэччы Нурца і Нурчыка, але дабрацца ў іх не так лёгка. З Мілейчыцаў едзеце вы ў напрамку Боцькаў, недзе за Сабяцінам паварочваеце направа ў вёску Сасіны, калі пераедзеце яе ўздоўж, перад вамі зноў будуць спакойныя палі і лужкі і па правай руцэ, за далінаю, сядзяць гэтыя самыя Белкі. І сядзяць яны так мо і з паўтысячы год, бо вядомае нам першае пісьмовае ўпамінанне пра іх адносіцца, праўда, да 1676 года, але тады ўжо гэтая вёска мела сама меней стогадовую, а то і большую гісторыю. Яна прыналежала двару ў Быстрых, бо як кажуць самі белкаўцы, іх прадзеды хадзілі туды адрабляць паншчыну. Традыцыйна ўсё ж наймацнейшыя сувязі Белкі ўтрымоўвалі з адлеглымі ад іх у 6-7 кіламетрах Мілейчыцамі.

На даўнасць і стабільнасць тутэйшага насельніцтва паказваюць таксама і прозвішчы жыхароў; паходзяць яны пераважна ад імёнаў: Авярковіч (ад „Аверкій"), Андросюк (ад „Андронік"), Барташэвіч (ад „Варфаламей" або „Бартламей"), Гаўрылюк (ад „Гаўрыіл"), Кандрацюк (ад „Кандрат"), Леўчук (ад „Леў"), Леанюк (ад „Лянот"), Мацвеюк (ад „Матфей"), Петрашка (ад „Пётр"). Праховіч (ад „Прахор"), Саўчынскі (ад „Сава"), Томчук (ад „Фама" або „Тамаш"), Федарук (ад „Фёдар"), Франчук (ад „Францішак") Юхімовіч (ад „Анфім") і г.д., некаторыя паказваюць на занняткі іх продкаў: Рыбачук (ад „рыбак"), Трачук (ад „трач" — той, хто займаўся рэзаннем драўніны на будаўнічы матэрыял); а на іх ахвоту пагаварыць — Баена (ад агульнаславянскага „бай" — гаварун), ці жвавасць, спрыт і борздасць — Жэгуня (ад „жыга" — спрытны, хуткі), або пабажыцца і паўздыхаць — Божук (ад „Божа мой, Божа" або

Працяг на стар.4

### „ПРА ТЫХ, ШТО ВЫБРАЛІ СМЕРЦЬ" — СЛЕДАМ РЭПАРЦЁРСКІХ ЗАПІСАК.

## ДОТ 18 ГЕРОЯЎ

Пра яго пісаў я ў „Ніве" ад 25 чэрвеня 1978 года. Дот знаходзіцца на ўзгорку пад лесам за вёскай Машчона Каралеўская ў Мельніцкай гміне. Калі ўзабрацца на гэты ўзгорак, цэлае наваколле, разам з вёскай Машчона Каралеўская, ракой Буг і надбужнай далінай, распасціраецца перад вачыма, як на малюнку.

У гэтым доце 18 безыменных герояў на світанні 22 чэрвеня 1941 года адважна сустрэлі ворага. Як расказваюць жыхары Машчоны, адбіваліся яны не менш тыдня, адбіваліся і не здаліся, не пакінулі гэтага дота, не пакарыліся перад ворагам. Гітлераўцы падарвалі іх, падпаліўшы бензін.

Рэпартаж „Пра тых, што выбралі смерць", канчаўся так:

*„Хацелася б мне ўстанавіць хаця некаторыя прозвішчы загінуўшых там воінаў, каб пасмяротна адзначыць іх геройства, каб паведаміць аб гэтым бацькам і родзічам...*

*Надзея малая, але яна ёсць. Спадзяюся знайсці ў гэтай задуме шчырых сяброў і памочнікаў. Давайце паспрабуем!"*

*

І я не памыліўся. Адклікнуліся сябры з Мемарыяльнага комплекса **„Брэсцкая крэпасць-герой"**, якія асабліва зацікаўлены вывучэннем падзей на тадышняй дзяржаўнай граніцы СССР у першыя дні Айчыннай вайны. Старшы навучны супрацоўнік брэсцкага музея **В. П. Ласковіч** піша:

*„...рэпартаж „Пра тых, што выбралі смерць" мы вельмі высока цэнім і сардэчна вам, ды ўсім польскім сябрам дзякуем за тое, што яны захавалі ў памяці воінаў, загінуўшых у баях „за нашу і вашу свабоду"..."*

І крыху далей:

*„У пачатку 1940 года, згодна з пастановай Савецкага ўрада, пачалося інтэнсіўнае ўмацаванне заходняй граніцы Савецкага Саюза..."*

Так, гэта праўда, нават я яшчэ памятаю, як вызначалі ў нас людзей да працы пры пабудове ваенных аэрадромаў, гарадкоў і доўгачасных агнявых пунктаў, інакш кажучы — **дотаў**, ад рускай назвы **„долговременная огневая точка"**, якія ў нас называлі і называюць **бункерамі**. Па-суседску з нашай вёскай (тады ў Высокалітоўскім раёне, а цяпер у гміне Нурэц-станцыя) знаходзіўся недакончаны яшчэ аэрадром у лесе за вёскай Тымянка, а крыху далей, — у лясах пад Нурцом і за Чаромхай — былі абсталяваны ваенныя гарадкі.

Да Буга аднак было яшчэ нейкіх 30 кіламетраў. Аднак нашы сяляне таксама працавалі пры пабудове гэтых дотаў.

*„Рылі катлаваны і бетанавалі сцены... Кожны дот прыкрываў або мост, або скрыжаванне дарог, або пануючую ў наваколлі вышыню, а ўсе разам, аб'яднаныя ў тры батальённыя апорныя раёны, сталі на шляху ворагаў..."*

Так тадышні надбужскі краявід апісвае карэспандэнт салдацкай газеты „Красная звязда", старшы лейтэнант Н. Чэркашын, артыкул якога „Из дотов не выходить!", памешчаны ў „Праўдзе" яшчэ ў 1975 годзе, я таксама атрымаў ад сяброў з Брэста.

*

Вяртаемся аднак да лісту В. П. Ласковіча. Піша ён, што для абароны заходняй граніцы СССР у раёне Брэста былі тады ўтвораны 62-гі Брэсцкі ўмацаваны раён, значыць — БУР.

*„Яго лінія абароны,* — чытаем у лісце, — *даходзіла да 170 кіламетраў і цягнулася ад граніцы УССР, на поўдзень ад Брэста за Сямяцічы. Паўночны яе пункт, на жаль, нам невядомы. Гэтую паласу на першай лініі прыкрывалі тры асобныя кулямётныя батальёны..."*

*

Асобныя кулямётныя батальёны... Па руску: **отдельный пулемётный батальён**, значыць **ОПБ**. Нас найбольш тут цікавяць 17 ОПБ, які меў абараняць раён Сямяціч, і 16 ОПБ, які займаў паласу на поўнач ад Сямяціч.

(Працяг на стар. 4)

# ТРЫБУНА чытачоў

### ФАБРЫКА — ПЕНСІЯНЕРАМ

Кожны год кіраўніцтва керамічнага завода ў Старым Ляўкове сустракаецца са сваімі пенсіянерамі. Такая сустрэча надта карысная. Пенсіянеры дзеляцца ўражаннямі, гавораць пра свае справы, пра справы фабрыкі. Кіраўніцтва расказвае аб далейшых планах развіцця керамічнай прадукцыі, аб штодзённай працы — яе недахопах і дасягненнях.

Пенсіянеры дапамагаюць фабрыцы. Сартуюць цэглу і т.п. У сваю чаргу фабрыка памагае пенсіянерам, прывозіць дровы і вугаль у хату, дае грашовую дапамогу, рамантуе хаты. Група пенсіянераў налічвае 21 асобу. Вядучымі дзячамі тут Яніна Скепка і Міхась Харкевіч.

**А. З.**

### КАРЧМА

У кляшчэлеўскай гасподзе — сталовай, з парадкам і гігіенай, а таксама адносінамі да кліентаў — дрэнна! Начнем па парадку. Вядома, дзе п'юць гарэлку (а тут дазволена), там чуваць праклёны, „салёныя" словы, дурныя жарты. Ды ж на ўсё ёсць граніца, кляшчэлеўская крама — дзяржаўнае прадпрыемства.

Піва, ліманад, фруктон, часта брудныя. Вось прыклад: на Ілью — 2 жніўня ў бутэльках з фруктонам плавалі валасы і гэта могуць пацвердзіць многія жыхары вёскі Тапаркі. Можа тут вінавата мясцовая разліўная, аднак служачыя гасподы маюць вочы і ведаюць, што прымаюць.

Адносіны да кліентаў не змяняюцца, як кажуць, ад вякоў. Мясцовыя, гэта значыць кляшчэлеўскія кліенты піва і іншыя напіткі атрымліваюць без чаргі. а незнаёмы выстаіць аж яму ў горле перасохне. І калі дастане, дык бруднае. Не павінна быць так у кляшчэлеўскай карчме.

**П. Д.**

### КІЁСК № 5

У лютым гэтага года аддзел ВСС у Гайнаўцы пабудаваў і адкрыў кіёск № 5 на вуліцы Ліповай. Гэта спажывецкі кіёск і прадаюцца тут харчовыя прадукты. Як спраўляецца прадаўшчыца Крыстына Даўнаровіч, я даведаўся ад пакупнікоў. Яны хваляць сваю Крысю за добрую працу. Яна, напрыклад, адкрывае свой кіёск не ў 7 гадзін, як кажа план, а паўгадзіны раней, каб мамы змаглі хутчэй купіць малако і адправіць дзяцей у школу.

Хоць і стараецца прадаўшчыца, у кіёску ёсць недахоп тавараў. Няма зельнага перцу, а таксама натуральнага. Няма шакаладных вырабаў, напіткаў, а нават булачак, не гаворачы ўжо аб мясных кансервах.

Я думаю, што аддзел ВСС у Гайнаўцы пачне дастаўляць у гэты патрэбны кіёск усе патрэбныя тавары.

**Вірскі**




### ЛЮБІЎ НА НАЧЛЕЗЕ Я ЧАСТА БЫВАЦЬ

*Прыгожыя нівы родных палёў,*
*Там росы блішчаць на калоссях.*
*Пах кветак духмяны плыве з-над лугоў,*
*Іскрыцца нябесная просінь.*

*Там вецер павольна махае крылом,*
*Люстраную рэчку цалуе.*
*І толькі пад вечар звіецца клубком,*
*Ў густых чаратах зачачуе.*

*Даўней там начлежнікі пасвілі коні,*
*Распаляць агнішча, спяваюць, смяюцца.*
*Праз высекі рэха нясецца за гоні,*
*І толькі над ранкам здадуцца.*

*Аж сонца разбудзіць і трэба ж ўставаць,*
*Бо праца чакае ўсіх дома.*
*Сарвуцца начлежнікі коней шукаць,*
*Знікае і соннасць, і стома.*

*Любіў на начлезе я часта бываць,*
*Чытаць свае першыя вершы,*
*За родную справу душой адставаць,*
*Заўсёды і ўсюды быў першы.*

*Цяпер я далёка ад родных палёў,*
*А ўсё ж тыя помняцца хвілі...*
*Даўно там не паляць начлежных агнёў,*
*Бо трактары коней змянілі.*

**М. Базылюк**




## Мае рэфлексіі да адгалоскаў Ул. Сідарука

Зацікавіў мяне артыкул-адгалоска п.з. „Для дабра супольнай справы" Уладзіміра Сідарука з 20 жніўня, № 34 „Нівы".

Аўтар стараецца па-свойму ацаніць вартасць некаторых карэспандэнтаў „Нівы": як і што яны пішуць. У некаторых выпадках ён мае рацыю і з яго фактамі нельга не згадзіцца.

Цаню здольнасці і адкрытасць Ул. Сідарука. Ведаю, што гэта адзін з найлепшых і самых здольных карэспандэнтаў „Нівы". Прабачце, дарагі Валодзя, што я вас трохі таксама штурхану. Гэта таксама для дабра супольнай справы. Пішаце, што лаўрэаты Мікалай Няплоха і Аляксандр Закройшчык таму мала пішуць у „Ніву", што свайго ўжо дабіліся, стаўшы першымі карэспандэнтамі. На маю думку, гэта не так. Як ведаем, абодва яны — Няплоха і Закройшчык — настаўнікі. А гэта сёння цяжкая і адказная праца, і, відаць, мала маюць часу пісаць. І яны ж не парвалі з „Нівай". Пішуць. Хоць мо і за рэдка.

А што я многа пішу, дык гэта весь у чым справа: я так „уцягнуўся" ў „Ніву", што жыць не магу без яе. І абы вольны час, абавязкова нешта хачу пісаць. Можа таму некаторыя справы і паўтараюцца, хоць бывае і так, што некаторыя справы трэба паўтарыць, трэба пісаць некалькі разоў, каб дабіцца рэзультатаў. Але мае артыкулы праўдзівыя і гэта рэдакцыя ведае.

Мне зусім не залежыць быць першым, каб атрымаць узнагароду „Нівы". О не! Я не перастаў бы пісаць у „Ніву", каб і ніякага ганарару не плацілі мне. Столькі ж сама буду пісаць. „Ніва" — маё найлепшае хобі і мой найлепшы прыяцель. На грошы, узнагароды я ніколі не гляджу. Таксама і папулярнасць, слава мне не патрэбны.

Валодзя жартуе, што я кожнага важнейшага дзяржаўнага працаўніка гміны пахваліў у „Ніве". Каб іх усіх пахваліць, „Нівы" не хопіць, столькі іх развялося. Гэта чыстая праўда! Хвалю тых, хто заслужыў на гэта, але колькі друкуецца і крытычных маіх матэрыялаў — не ведаю, ці хто больш піша.

Цяпер накont маёй заметкі „Культурная забава" з 28 нумара. Ці гэта дробязь? Так сцвярджае Сідарук. Але ж гэта кароценькая заметка і вельмі мала месца заняла ў „Ніве". Такіх культурных безалкагольных вечарынак у нас арганізуецца вельмі мала. А ўсё ж больш робіцца гучных забаў, дзе водка цячэ, як мора. Хлопцы праз усю ноч ходзяць па вёсцы і перапалохваючы, купляюць гарэлку. І бойкі бываюць. Што гэта не адзіночныя выпадкі, пацвердзіць можа дубіцкая калегія. Нават цяпер адзін дубіцкі хлопец за бойку сядзіць у арышце, а здарылася гэта на забаве алкагольнай. Па-мойму мая заметка не „дробязь". Пра такія справы трэба пісаць да „Нівы". Тады можа з часам наша крытыка паможа.

**М. Панфілюк**

## ТРЭБА, СКАЗАЛІ, ЗРАБІЦЕ

Новы пасёлак на Падляссі ў Гайнаўцы распаложаны на нізкім месцы. Вясною і восенню вада падыходзіць да падвалаў, вуліцы становяцца непраходнымі, балота — хоць да хаты не ідзі. Сітуацыя такая выступае на пяці вуліцах: Жабяй, Бацяняй, Качай, Гусяй і Чайкі. З праблемамі гэтымі выступаюць жыхары пасёлка на кожнай сустрэчы пасялковага камітэта і на іншых сходах.

Ведаюць добра праблему ўлады горада Гайнаўкі. У гэтым годзе была прызнана сума 350 тысяч злотых на рамонт усіх спамянутых вуліц. Трэба зрабіць гэтак званую „бужуўку", каб вада адплывала. Выкананне гэтай працы дало б падвойную карысць: абнізіла б ваду ў зямлі і асушыла б вуліцы. Дамы тут пабудаваны коштам каля мільёна злотых кожны і гаспадары іх не хочуць змарнаваць дабра. Калі аднак вуліц не адводняць, сума затрат будзе расці з году ў год.

У месяцы жніўні адбылося пасяджэнне прэзідыума пасялковага камітэта № 4, дзе, між іншым, на павестцы дня стаяла справа пабудовы адвадненння на пасёлку Падляссе. Прадстаўнік Прадпрыемства камунальнай і жыллёвай гаспадаркі, упаўнаважаны дырэктара, паінфармаваў, што ў гэтым годзе яны не змогуць выканаць гэтага задання, бо няма матэрыялаў.

На нашу думку — гэта занядбоўванне прадпрыемствам сваіх абавязкаў. Да выканання ж гэтай працы патрэбны толькі цэмент на руры, а цэменту цяпер нават на прыватныя пабудовы колькі хочаш у магазінах.

Ад імя ўсіх жыхароў пасёлка Падляссе, звяртаюся да вас, дырэктар В. Данілюк — пастарайцеся і зрабіце ў гэтым годзе адвадненне пасёлка. Людзям на высокіх пасадах нельга кідаць слоў на вецер. Будучы на выбарах пасялковага камітэта № 4, у прысутнасці ўсіх дэлегатаў, сказалі вы, што „бужуўка" на новым пасёлку Падляссе будзе выканана, а цяпер, як рак, даеце ў зад.

Старшыня пасялковага камітэта № 4
**Э. Вайсковіч**



### ЗАХАЦЕЎ КУПІЦЬ КАСЦЮМ

Справы мо і малаважныя, ды ўсё-такі хачу пра іх напісаць. Нядаўна ездзіў я ў розныя гарады Беласточчыны за пакупкай касцюма. Касцюм купіў, але наведваючы розныя магазіны, парабіў нейкія назіранні. Вось, напрыклад, ва ўнівермагу ў Бельску Падляшскім у прымяральных каютах няма на паркетах дыванчыкаў. Хочаш прымерыць штаны, разбуешся і не ўстоіш у адных шкарпэтках, гэтак цягне сцюжа ў ногі з цэменту.

А ў Гайнаўцы ў краме з адзежай на вуліцы 1-га Мая іншая гісторыя з прымяральняй. Каюта абшырная, быццам гумно, дужа за абшырная, як на аднаго пакупніка. Ці не лепш было б, замест адной, вялікай каюты, зрабіць дзве меншыя? Тым больш, што адной не хапае для ўсіх і таму заўжды ўстаўляецца пры ёй чарга. У Гайнаўцы, у такой самай краме, ды на вуліцы М. Бучка, іншая праблема. Касцюмы на вешалках не ўпарадкаваны паводле размераў. Увойдзеш, і каб знайсці адпаведні размер трэба перагарнуць усю адзежу. Тое самае ў суседнім ВДТ.

**П. Байко**




**М. Б.** Штутова. Рады, што зноў адазваліся. Інфармацыя і верш добрыя.

**Ф. Хлябіч.** Абодва вершы будзем друкаваць.

**Юрка Трачук.** Верш надрукуем у „Парнасіку".

**Румі.** Некаторыя вашы інфармацыі не пайшлі ў друк, бо яны ў вас вельмі неканкрэтныя, от проста набор слоў. Такая інфармацыя чытачу не да спадобы. Пішыце інфармацыі аб непасрэдна вядомых вам мясцовых справах.

**Гіль.** Не хлусіце, што не ведаеце нічога. З навейшых вашых матэрыялаў не надрукуем толькі „Закон не зменены, час не роўна цэнены".

**М. Панфілюк.** Вы не згаджаецеся з агульным ачараваннем нашых чытачоў Дзядзькам Квасам. І асабліва не цэніце яго „Палоскі". Што ж, і так бывае. З другога боку, як дагэтуль, вы адзіны маеце такое меркаванне. Усе іншыя захапляюцца нашым Дзядзькам. І асабліва яго „Палоскай". І так бывае.

**П. Байко.** Інфармацыі „Новыя экскурсаводы" не надрукуем, бо аб гэтым ужо напісаў карэспандэнт з Гайнаўкі.

### ТЭЛЕФОН НА ПАСЁЛКУ „ПАДЛЯССЕ"

На жаданне пасялковага камітэта № 4 у Гайнаўцы тэлекамунікацыйнае ўпраўленне паставіла тэлефонную будку на новапабудаваным пасёлку „Падляссе". Тэлефон такі быў тут вельмі патрэбны, пасёлак ляжыць ад цэнтра 2 км. Цяпер жыхары пасёлка ва ўсіх патрэбах могуць хутка карыстацца тэлефонам.

Жыхары пасёлка ўдзячны кіраўніку тэлекамунікацыі ў Гайнаўцы Генрыку Стопчыку, што хутка іх паслухаў.

**Э. Вайсковіч**

### БУДЗЕ ДАВЕДНІК!

Шматлікія экскурсанты і турысты, якія штогод наведваюць Белавежу, а ў ёй прыродазнаўчы музей БНП, наракаюць на недахоп даведнікаў аб гэтым цікавым аб'екце. І, вось, хочам іх пацешыць! Даведнік такі будзе! Праўда, не ў гэтым яшчэ годзе, але ўжо ў наступным турысцкім сезоне, пачынаючы ад красавіка, яго можна будзе купіць.

Даведнік ужо падпісаны да друку. Аўтарам яго з'яўляецца шматгадовы кіраўнік белавежскага музея др інж. Чэслаў Аколаў. Каляровыя здымкі да даведніка зрабіў інж. Кшыштоф Вольфрам з Акруговага праўлення дзяржаўных лясоў у Беластоку. Друкуе выдавецтва „Спорт і турыстыка" ў Варшаве. Даведнік выйдзе таксама ў версіях: рускай, англійскай і нямецкай.

**П. Байко**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „АБСУРД З НАШАЙ ЗЯМЛІ", „Ніва" № 34/1173 ад 20 жніўня 1978 года.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" W NAREWCE.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Absurd z naszej ziemi" z 34 numeru tygodnika „Niwa" z dnia 20.08.1978 roku uprzejmie informujemy, że przyczyną podjęcia decyzji w sprawie przeprowadzenia remanentu w okresie żniw było złożenie informacji przez działacza Samorządu Spółdzielczego, iż w sklepie w Eliaszukach jest podejrzenie o duże manko.

W 1975 roku sprzedawczyni ze sklepu w Eliaszukach rozliczyła się z mankiem w granicach 30 tys. złotych. Stąd też informacja członka samorządu była powodem do natychmiastowej kontroli majątku.

W dniu 27.07.1978 r. Zakład Gospodarczy w Hajnówce oddelegował do przeprowadzenia remanentu w sklepie w Eliaszukach Ob. Mieczysława Sztylera, który miał zakończyć go w terminie do dnia 31.07.1978 r. Uzgodniono przy tym gotowość wypłacenia należności za godziny nadliczbowe. Pomimo ponagleń Ob. Sztyler pracę zakończył w dniu 6.08.1978 r.

Nadmieniamy, że w czasie trwania remanentu napoje gazowane były dostarczane do miejscowego Klubu Prasy i Książki „Ruch" zgodnie z zamówieniami gospodarza tej placówki, zaś pieczywo dowożono do szkoły /w ramach sprzedaży obwoźnej i sznur do snopowiązałek sprzedawany był ze sklepu podczas remanentu.

Z treści notatki prasowej wynika, że w sklepie w Eliaszukach z kolei trzeci rok remanent przeprowadzany jest w okresie żniw. Nie jest to zgodne z prawdą. Podajemy terminy remanentów, w których je przeprowadzano w latach ubiegłych, a więc: 12—17 XI 1973 r. (kontrolny), 18—27 XI 1974 r. (kontrolny), 4—12 II 1975 r. (kontrolny), 12—20 X 1976 r. (zdawczo-odbiorczy), 23 II—1 III 1977 r. (zdawczo-odbiorczy) i 27 VII—6 VIII 1978 r. (kontrolny).

Z wyżej wymienionych danych wynika, że od pięciu lat remanenty zawsze były przeprowadzane w okresie zimowym. Ponadto wyjaśniamy, że mieszkańcy Eliaszuk nie byli zmuszeni do wyjazdów po zakupy aż do Narewki, ponieważ w Lewkowie Starym oddalonym o 3,5 km mieszczą się 3 sklepy spożywcze i 1 przemysłowy, w których można zaopatrzyć się w artykuły spożywcze pierwszej potrzeby oraz przemysłowe.

**Wiceprezes d/s Handlu**
**W. Jańczuk**

**Да заметкі „ДРЭННАЯ ДАРОГА", „Ніва" № 32/1171 ад 6 жніўня 1978 года.**

**Адказвае REJON DRÓG PUBLICZNYCH W BIAŁYMSTOKU.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Kiepska droga" z 32/1171 numeru tygodnika „Niwa" — Rejon Dróg Publicznych w Białymstoku wyjaśnia co następuje:

Droga państwowa z Juszkowego Grodu do Bondar posiada nawierzchnię żwirową przystosowaną wyłącznie do małego natężenia ruchu drogowego. Jest ona utrzymywana przez profilowanie i wyrównanie dołów równiarką oraz częściowe uzupełnienie żwirem.

W okresie dużych opadów deszczu oraz dużego natężenia ruchu pojazdów ponadnormatywnych, odbywającego się na tej drodze w związku z budową zbiornika wodnego w Siemianówce, mogło nastąpić okresowe zdeformowanie drogi. Biorąc powyższe pod uwagę Rejon Dróg Publicznych sukcesywnie likwiduje powstałe wyboje. Pomimo tego stan tej drogi może być okresami niezadowalający użytkowników ze względu na to, że droga ta nie jest przystosowana do obecnie istniejącego ruchu. W latach 1980 i 1981 droga ma być zmodernizowana i będzie posiadała nawierzchnię bitumiczną.

Jednocześnie nadmieniamy, że omawiany odcinek drogi był dotąd zawsze utrzymywany w stanie zadowalającym i nie było w tym zakresie żadnych interwencji.

**Zastępca Dyrektora**
**d/s Budowy**
**mgr inż. Aleksander Jurgiel**

